**№ 9 (1572)**

Пятніца , 17 студзеня 2003 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою…*

**Якуб Колас**

# Народная Воля

### *Надвор'е*

Сёння ўдзень захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, часам невялікія ападкі, слабы галалёд, на дарогах галалёдзіца. Вецер заходні, 6—11, у асобных раёнах парывы да 15—20 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве, Гомелі — 0...+2, Мінску, Гродне — +2...+4, Брэсце — +3...+5.

У наступныя двое сутак воблачнае з праясненнямі надвор'е, часам ападкі, у асобных раёнах туман, галалёд. Вецер паўднёва-заходні, 6—11 м/с, парывы да 14. Тэмпература паветра ўначы 18-га -1...+4, 19-га — 0...-4, удзень 0...+5.



**ПУЛЬС**

## Польшча зноў абмежавала ўвоз паліва

15 студзеня Польшча зноў увяла колькаснае абмежаванне (да 200 літраў) на ўвоз аўтамабільнага паліва ў паліўных баках транспартных сродкаў, зарэгістраваных у Расіі, Германіі, Венгрыі, Аўстрыі, Швецыі, Вялікабрытаніі і Ірландыі. "Інфармацыі пра тое, што згаданая норма распаўсюджваецца на транспартныя сродкі, зарэгістраваныя ў Беларусі, нашы мытнікі не маюць.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Сталічны форум вядомых дзеячаў

19 студзеня ў Палацы мастацтва ў 11.00 пачнецца сход інтэлігенцыі горада Мінска, на якім пройдзе вылучэнне дэлегатаў на Усебеларускі сход інтэлігенцыі, а таксама будуць абмеркаваны праграма і найбольш важныя праблемы, якія плануецца вынесці на гэты форум.

На сход запрошаны вядомыя дзеячы навукі, культуры, адукацыі, эканамісты, палітолагі, прадстаўнікі іншых прафесій інтэлектуальнай сферы, а таксама ў якасці гасцей — прадстаўнікі інтэлігенцыі з абласцей Беларусі і паслы замежных краін.

**Андрэй ІВАНОЎ.**

## Дырэктар брала «баксы» і мяса

Затрымана дырэктар Брэсцкага камбіната грамадскага харчавання Іна Лазаковіч. Ёй прад'яўлена абвінавачанне па двух артыкулах Крымінальнага кодэкса — атрыманне хабару і крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі. Падазроная змешчана ў ізалятар часовага ўтрымання

У снежні мінулага года супрацоўнікі УКБАЗіК устанавілі, што Іна Лазаковіч атрымала хабар у памеры 250 долараў ЗША за зніжэнне стаўкі арэнднай платы для прадпрымальніка. Дырэктара камбіната тады не затрымалі, паколькі яна практычна адразу лягла ў бальніцу. Падчас аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў супрацоўнікі міліцыі высветлілі, што ў снежні 2002 года Лазаковіч учыніла крадзеж 175 кілаграмаў мяса птушкі і 199,2 кілаграма свініны на агульную суму 1 мільён 468 тысяч рублёў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Канфіскавалі 36 тон яблыкаў

У гандлёвую сетку Пінска па цане 800 рублёў за кілаграм паступілі канфіскаваныя на беларуска-ўкраінскай мяжы яблыкі.

Канфіскаваная садавіна прадаецца па цане значна ніжэй за рыначную і карыстаецца вялікім попытам у пакупнікоў. Паводле слоў дырэктара ААТ "Прадукты" Марыі Калядзіч, знешні выгляд і смак гэтых яблыкаў значна лепшы за беларускія аналагі, што паступілі ў гандаль напярэдадні Новага года з садаводчых гаспадарак Брэстчыны.

**Павел КУНІЦКІ.**

## Безработица растет

В Минске государственной службой занятости официально зарегистрировано 16400 безработных. За последний год их число выросло примерно на 2700 человек, рассказала корреспонденту БелТА начальник центра информации Минского городского центра занятости населения Инна Семенова.

Она отметила, что предприятия и организации столицы, по данным на 1 января, заявили о 8673 вакансиях. Подавляющее большинство из них — для людей, владеющих рабочими специальностями. Между тем 33 процента официально зарегистрированных минских безработных имеют высшее и среднее специальное образование.

**Оксана ОСПИЩЕВА.**

**ДЫСКУСІЙНЫ КЛУБ**

*Павел СЕВЯРЫНЕЦ:*

## «Расійскія палітыкі зробяць стаўку на тых у Беларусі, хто вагаецца з суверэнітэтам, і выкарыстаюць іх у сваіх інтарэсах»

*Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА:*

## «Без сістэмнай працы ў Расіі мы не вырашым самае галоўнае пытанне — пытанне дэмакратыі ў Беларусі»

*Удзельнікі нашага "двубою" — аднадумцы і паплечнікі ў многіх пытаннях, аднак яны выразныя апаненты ў той тэме, якую мы будзем абмяркоўваць. "Ў Еўропу разам з Расіяй" — так называўся артыкул у газеце "Народная воля" старшыні АГП Анатоля Лябедзькі. "Беларусь — у Еўропу" — ідэалогія і лозунг многіх акцый незарэгістраванага Маладога Фронту.*

*Расійскае пытанне — адна з тых нямногіх праблем, дзе падыходы ГА "БНФ "Адраджэньне" і АГП кардынальна не супадаюць. Свайго піку канфлікт гэтых прынцыпаў дасягнуў 23 кастрычніка мінулага года, калі АГП рыхтавалася сустрэць у Мінску лідэра Саюза правых сіл Расіі Барыса Нямцова. "Малады Фронт" тады наладзіў пікет з гэтай нагоды, і Павел Севярынец асабіста ўручыў Анатолю Лябедзьку грошы на білет у Маскву.*

*Журналіст Радыё "Свабода" Віталь ЦЫГАНКОЎ выклікаў на "рынг" гэтых двух вядомых палітыкаў — адзін маладзейшы, другі крыху старэйшы — каб публічна высветліць іх пазіцыі.*

**— Анатоль, як вы тады ўспрынялі гэты крок Севярынца?**

**А.ЛЯБЕДЗЬКА:**

— Абсалютна спакойна.

**— Сапраўды? І вам не падалося, што гэта не зусім тыя метады, якія можна выкарыстоўваць у палітычнай барацьбе?**

— Калі пакінуць за дужкамі нейкія свае асабістыя пачуцці, а зыходзіць з пазіцыі партыі, то наш галоўны прынцып — мы за свабоду выказванняў, правядзення пікетаў, маніфестацый. Нават калі нам не падабаецца форма ці змест, — не будзем супраць гэтага выступаць.

**— Павел, а вы не лічыце, што такая форма, як уручэнне грошай на білет у Маскву, можа быць абразлівай для лідэра партыі, якая выступае за незалежнасць Беларусі, і для чалавека, які столькі разоў праследаваўся рэжымам?**

**П.СЕВЯРЫНЕЦ:**

— Можа быць, форма была і залішне экспрэсіўнай, але, па сутнасці, гэта слушна. Мы мусім папярэджваць тых палітыкаў, якія хочуць ставіць на саюз з Расіяй. Надта складана потым будзе разбірацца з прыватызацыяй, русіфікацыяй. Урэшце, рэчы трэба называць сваімі імёнамі — акупацыя гэта акупацыя, незалежнасць гэта незалежнасць, беларускія інтарэсы — гэта беларускія інтарэсы.

**— Павел, аднак многія аналітыкі сёння лічаць, што зараз ніякай пагрозы для беларускай незалежнасці з боку Расіі няма. Што гэта проста палітычны і публіцыстычны міф...**

— Я з гэтым не згодны. Расія будзе вечнай пагрозай для Беларусі, і ўсялякі саюз з Расіяй будзе аслабляць незалежнасць Беларусі і яе імкненне ў Еўропу.

**— Некаторыя сцвярджаюць, што пазіцыя АГП па расійскім пытанні змянілася менавіта пасля таго, як партыя наладзіла вельмі цесныя адносіны з Саюзам правых сіл. І, маўляў, паварот АГП абумоўлены фінансавай залежнасцю ад Барыса Нямцова і кампаніі. Анатоль, што вы на гэта скажаце?**

**А.ЛЯБЕДЗЬКА:**

— Пазіцыя змянілася пасля падзей 11 верасня ў ЗША, якія змянілі геапалітычную сітуацыю ў свеце. І мы як прагматычная партыя, якая арыентуецца ў знешніх пытаннях, натуральна, зрабілі некаторыя акцэнты ў сваёй знешняй дзейнасці.

Мы заўсёды імкнуліся працаваць на расійскім палітычным рынку, але яшчэ год таму гэта было практычна немагчыма. Бо Лукашэнка і Расія дзейнічалі ў фармаце аднаго сцэнарнага плана, і многае было проста бессэнсоўным. За апошні год (факты пра гэта сведчаць) шмат што змянілася. Фактычна цяпер пытанне заключаецца ў тым, ці трэба працаваць на палітычным рынку Расіі. Мы за тое, каб працаваць.

**— Абгрунтуйце. Якая канчатковая мэта гэтай працы?**

— Знешнія чыннікі ўплываюць на сітуацыю ў Беларусі.



*Анатоль Лябедзька.*



*Павел Севярынец.*

**Фота IREX/ProMedia.**

Ёсць расійскі чыннік — шэсць расійскіх тэлеканалаў, залежнасць па энергетыцы, скіраванасць грамадскай думкі ў значнай ступені. Прагматычныя палітыкі павінны гэта браць да ўвагі. Калі мы хочам насамрэч вырашыць пытанне незалежнай суверэннай Беларусі, то павінны гэта ўлічваць.

Якое пытанне сёння самае галоўнае для нас? Не прыватызацыя, не знешняя палітыка, самае галоўнае — ці сыдзе цяперашні палітычны рэжым у небыццё.

**— І тут любыя саюзнікі — добрыя?**

— Так, я зыходжу з таго, што апазіцыі ваяваць на некалькі франтоў небяспечна і дорага абыдзецца. Калі мы будзем ствараць штучных ворагаў, то прайграем. Так заўсёды было ў палітыцы.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

# Прорыв?

### Депутатская группа "Рэспубліка" Палаты представителей заключила соглашение о сотрудничестве с депутатской группой "Народный депутат" Госдумы России. 14 декабря в Москве этот документ скрепили своими подписями руководители групп: Владимир Парфенович и Геннадий Райков.

Оба руководителя отметили, что их депутатские формирования являются центристскими. А желание взаимодействовать объясняется их прагматизмом. В этой связи Геннадий Райков отметил: "Депутатская группа из Беларуси стоит на реальных позициях и имеет определенный вес в белорусском обществе. Я сегодня общался с другими белорусскими депутатами, которые участвуют в заседании парламентского собрания Беларуси и России. Они это подтвердили и сказали, что позиция группы не всегда совпадает с позицией главы белорусского государства. Хочу отметить, что и наша позиция тоже не всегда совпадает с мнением нашего президента. Я считаю, что критиковать надо. Но критика должна быть конструктивной. Надо уметь ее слушать и делать выводы. Только тогда можно будет жить хорошо. Нужно, чтобы у людей была хорошая работа, нормальная зарплата. Тогда и семья, и все остальное будет крепким".

Владимир Парфенович, характеризуя позицию своей группы, отметил, что по всем вопросам "Рэспубліка" имеет свою позицию. "И мы публично о ней заявляем. Мы не являемся глухой оппозицией. Наша главная цель — повышение жизненного уровня населения страны", — сказал Владимир Парфенович. Оба лидера согласились, что начинать совместную работу парламентариев двух стран нужно с унификации законодательства.

Читатели "Народной воли" имеют возможность ознакомиться с полным текстом этого соглашения. Безусловно, оно требует серьезного осмысления и анализа. Но по горячим следам напрашиваются как минимум два важных вывода. В свое время Александр Лукашенко "приватизировал" все отношения Беларуси с Россией, включая парламентские. В Думе предыдущего созыва белорусский лидер был частым гостем и не один раз срывал там аплодисменты. Сейчас ситуация начинает меняться. Объединенная гражданская партия наладила хорошие контакты со своими единомышленниками из партии и фракции Госдумы "Союз правых сил". И вот новый прорыв — соглашение заключили парламентарии с парламентариями. И второе — интеграционные мотивы обе группы связывают исключительно с действующим законодательством. А это означает, что, в соответствии с Конституцией Республики Беларусь, наша страна не может войти в состав Российской Федерации ни по частям, ни полностью. То есть независимость, суверенность нашей страны является незыблемой ценностью.

### Справка

Депутатская группа "Рэспубліка" была создана 23 апреля 2002 года. Первоначально ее возглавил генерал Валерий Фролов. Недавно в группе произошла ротация лидера. Им стал трехкратный олимпийский чемпион Владимир Парфенович. На сегодняшний день в группу входят 11 депутатов. Это — Игорь Баслык, Геннадий Дылевский, Петр Иваненко, Владимир Лукашевич, Юрий Морозов, Владимир Парфенович, Иван Пашкевич, Виктор Порфенович, Владимир Резников, Сергей Скребец и Валерий Фролов.

В депутатскую группу "Народный депутат" входят 54 парламентария. В Государственной Думе эта группа по численному составу является третьей. Руководитель группы Евгений Райков — белорус по национальности. Его родственники до сих пор проживают, как он сам говорит, в Полесье.

Наиболее известные депутаты группы — вице-спикер Думы Владимир Аверченко, председатель думского комитета по международным делам Дмитрий Рогозин, председатель думского комитета по обороне Андрей Николаев.

**Владимир ГЛОД.**

# *Соглашение*

### *о сотрудничестве между депутатской группой "Народный депутат" Государственной Думы Федерального Собрания Российской Федерации и депутатской группой "Рэспубліка" Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь*

Депутатская группа "Народный депутат" Государственной Думы Федерального Собрания Российской Федерации и депутатская группа "Рэспубліка" Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь, в дальнейшем именуемые "Стороны",

**заявляя** о необходимости координации усилий российского и белорусского народов по интеграции в Евросообщество;

**подтверждая** приверженность принципам демократии, верховенства закона и разделения властей, а также фундаментальным положениям Всеобщей декларации прав человека ООН;

**принимая** во внимание глобализацию мировой социально-экономической системы и необходимость адаптации к ней;

**выражая** интересы потребителей, производителей и предпринимателей обеих стран по построению качественно новых социально-экономических связей в рамках региональной системы разделения труда;

**обеспечивая** построение институтов для полноценного правового, информационного, культурного и научно-технического сотрудничества граждан обеих стран;

**ставя своей целью** облегчение свободного передвижения граждан, формальных и неформальных контактов между общественными организациями и органами государственной власти и управления, унификацию законодательства России и Беларуси;

**рассматривая** сотрудничество между законодательными органами Российской Федерации и Республики Беларусь как необходимый элемент государственного строительства двух стран, прогресса в построении единого конкурентного рынка товаров, услуг, рабочей силы и финансов;

**опираясь** на ранее подписанные договоры между Российской Федерацией и Республикой Беларусь,

соглашаются о следующем:

**Статья 1.** Стороны осуществляют сотрудничество в следующих формах:

— регулярного обмена информацией, методическими материалами по вопросам законотворчества;

— взаимного обмена специалистами, экспертами;

— законопроектов с целью обеспечения их унификации;

— координации деятельности депутатских групп по законотворческой деятельности как на парламентском уровне, так и в процессе национального законотворчества;

— участия депутатов депутатских групп "Народный депутат" и "Рэспубліка" в слушаниях, семинарах, научно-практических конференциях, проводимых группами;

— приглашения на сессии Государственной Думы и Палаты представителей членов депутатских групп, обеспечения возможности выступления и участия в парламентских дискуссиях по вопросам унификации социально-экономического законодательства;

— выступления с совместными заявлениями по вопросам социально-экономического сотрудничества России и Беларуси по вырабатываемым парламентами обеих стран законопроектам.

**Статья 2.** Стороны взаимодействуют в разработке и принятии законов по следующим направлениям:

— совершенствование местного самоуправления;

— совершенствование избирательного права;

— владение, пользование и распоряжение землей, недрами, водными и другими ресурсами;

— бюджетный процесс;

— оплата труда, трудовые отношения, занятость населения, миграционные процессы;

— реформирование образования, здравоохранения;

— социальная защита населения и пенсионное обеспечение;

— защита интересов производителей;

— международные и экономические связи;

— природопользование и охрана окружающей среды;

— борьба с терроризмом.

**Статья 3.** Стороны обязуются взаимодействовать в реализации программ и мероприятий между Беларусью и Россией:

— в области экономики;

— по совместной деятельности по преодолению последствий чернобыльской катастрофы;

— культурного обмена между Беларусью и Россией;

— премирования в области литературы и искусства;

— проведения спортивных мероприятий между Беларусью и Россией;

— мероприятий в области социальной политики.

**Статья 4.** Результаты действия настоящего Соглашения анализируются Сторонами путем периодического обмена информацией о его реализации (не реже двух раз в год).

**Статья 5.** Стороны обеспечивают поддержку членов депутатских групп "Народный депутат" и "Рэспубліка" в реализации статуса депутата, обеспечения эффективного и свободного выражения мнений и взглядов по обсуждаемым проблемам.

**Статья 6.** Настоящее соглашение вступает в силу с момента подписания и действует на срок полномочий членов депутатских групп "Народный депутат" и "Рэспубліка".

**Статья 7.** Стороны могут пересмотреть или расторгнуть настоящее Соглашение, направив соответствующее уведомление другой Стороне. Если одна из Сторон в письменной форме уведомляет другую сторону о своем нежелании следовать далее положениям настоящего Соглашения, его действие прекращается с момента получения другой Стороной такого уведомления.

Текст настоящего Соглашения составлен в двух экземплярах, по одному для каждой из Сторон.

**Г.РАЙКОВ,**
**руководитель депутатской группы "Народный депутат".**
**В.ПАРФЕНОВИЧ,**
**руководитель депутатской группы "Рэспубліка".**

### От редакции

Публикуя информацию о сотрудничестве двух депутатских групп — "Рэспубліка" и "Народный депутат", знакомя читателей с самим документом, скрепляющим парламентские узы, мы все же обратили внимание на то, что в тексте соглашения четко не прописана позиция одной и второй группы относительно суверенитета Беларуси. Экономическое сотрудничество может быть равноправным и действительно полезным для народов при одном условии: если Беларусь будет по-настоящему независимым государством. Здесь неуместно ни заигрывание, ни замалчивание. И почему бы российским и белорусским политикам не заявить однозначно: мы — за добрососедские отношения, углубление интеграционных процессов при строгом соблюдении всех принципов независимости, суверенитета обеих стран?

Цивилизованная политика должна быть четкой и ясной.

**БОЛЬ**

# Мы хотим напомнить вам, живущим...

*20 января 2002 года исчез* **Юрий КОРБАН.** *24-летний студент Витебского государственного университета, руководитель "Центра молодежных инициатив "Контур", активист Партии БНФ, принимавший активное участие в кампании по выборам президента.*

### Прошел ровно год, но о судьбе Юрия КОРБАНА ничего не известно.

*Нам, матерям и женам похищенных политиков и общественных деятелей* **Юрия ЗАХАРЕНКО, Виктора ГОНЧАРА, Анатолия КРАСОВСКОГО, Дмитрия ЗАВАДСКОГО,** *понятны боль и страдания родных и близких* **Юрия КОРБАНА**. *Мы знаем, как тяжело ждать, как с каждым днем тают надежды. Мы также хорошо знаем, как работают наши правоохранительные органы. И сегодня мы хотим еще раз напомнить вам,* **живущим в Беларуси**, *что, к сожалению, государство не дает нам гарантий безопасности, никто не застрахован от подобных трагедий, что беда в любой момент может постучаться в ваш дом. И самое страшное — остаться один на один со своим горем. Поэтому сегодня мы вновь обращаемся за помощью к вам:*

### Граждане Беларуси!

Давайте вместе защищать себя, свой дом, своих детей, мужей, жен, близких. Только так мы можем остановить политический террор, унижения и издевательства над родными и близкими. Только так мы можем защитить будущее своих детей и своей страны.

**Юлия ЗАХАРЕНКО,**
**Зинаида ГОНЧАР,**
**Ирина КРАСОВСКАЯ,**
**Ольга ЗАВАДСКАЯ,**
**Светлана ЗАВАДСКАЯ,**
**Нина КОРБАН.**

**ОТ РЕДАКЦИИ**

*Как нам стало известно, матери и жены похищенных политиков и общественных деятелей выйдут 20 января в 12.00 на Октябрьскую площадь. Выйдут, чтобы в очередной раз выразить свою боль, напомнить власти, что ее долг — найти виновных в похищении и исчезновении их близких, гарантировать безопасность граждан в это непростое время. Выйдут, чтобы напомнить общественности: их беда — это беда всей страны. Если не принять должных мер, то завтра горе придет в тысячи других белорусских семей. Действительно, только сообща можно защитить будущее своих детей и своей страны.*

**ТОЧКИ НАД «І»**

## После драки руками не машут

В позавчерашнем номере была напечатана заметка "Разгон в "Беларускім часе". В ее основе — обращение группы бывших журналистов этого издания, распространенное во время пресс-конференции.

Проявив солидарность с уволенными коллегами "по сокращению штата", мы не учли все же один нюанс. Оказывается, почти все сотрудники редакции, оставшиеся без работы, написали заявления об уходе из газеты "по собственному желанию". Не будем вдаваться в подробности, почему они так поступили. Но факт остается фактом: с юридической точки зрения никаких претензий к работодателю не может быть.

Как тут не вспомнить народную мудрость: после драки руками не машут... Только те, кто не написал заявление об уходе "по собственному желанию", могут отстаивать свои права в соответствии с законодательством.

